**Матэрыялы беларускіх НДА, падрыхтаваныя для Універсальнага перыядычнага агляду па Беларусі ў Савеце па правах чалавека ААН**
**Кастрычнік 2009**

Гэтая падборка матэрыялаў падрыхтаваная ў жніўні-кастрычніку 2009 года групай беларускіх НДА для перадачы ў офіс Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека ў сувязі з падрыхтоўкай Універсальнага перыядычнага агляду выканання Рэспублікай Беларусь яе міжнародных абавязацельстваў у галіне правоў чалавека. Матэрыялы ўтрымліваюць спасылкі на больш дэталёвыя даклады і публікацыі.

У падрыхтоўцы матэрыялаў удзельнічалі наступныя арганізацыі: Міжнародная Федэрацыя правоў человека (FIDH), Беларускі Хельсінкскі Камітэт (БХК), Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ), Праваабарончы цэнтр «Вясна», Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў, выкарыстаныя матэрыялы Беларускага Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў.

## Змест:

# Агульная дынаміка
# становішча з правамі чалавека ў Беларусі

1. У апошняе дзесяцігоддзе сітуацыя ў Беларусі адрознівалася наяўнасцю сур'ёзных сістэмных праблемаў з правамі чалавека, што было прадметам пастаяннай крытыкі як унутры краіны, так і на міжнароднай арэне. Органамі ААН, Еўрасаюзу, Рады Еўропы, АБСЕ прынятыя дзесяткі асуджальных рэзалюцыяў, большасць патрабаванняў якіх кіраўніцтвам краіны не выкананая. У прыватнасці:

а) дзеючае заканадаўства накладае празмерныя абмежаванні на асноўныя правы і свабоды чалавека, што на практыцы стварае значныя перашкоды для іх рэалізацыі;

б) сур'ёзна парушаюцца прынцыпы прававой дзяржавы, што прыводзіць да выбарчага правапрымянення па палітычных і эканамічных матывах, некалькі дзясяткаў актывістаў сталіся палітвязнямі;

в) нівеліраванне ролі заканадаўчай і судовай улады, а таксама мясцовага самакіравання за кошт паступовага павялічэння паўнамоцтваў Прэзідэнта краіны прывяло да значнага паслаблення механізмаў абароны і аднаўлення правоў чалавека;

г) пачынаючы з жніўня 2008 г беларускія ўлады распачалі пэўныя крокі па паляпшэнні сітуацыі, у першую чаргу датэрмінова вызваліўшы палітвязняў і панізіўшы ўзровень рэпрэсіяў у дачыненні да апазіцыйных актывістаў. Гэта станоўча адбілася на паніжэнні атмасферы страху ў грамадстве. У некаторых выпадках улады не ўжывалі празмерных забаронаў на магчымасць рэалізацыі палітычных і грамадзянскіх правоў, дапускаючы аднак абмежавальную і дыскрымінацыйную практыку ў іншых выпадках. На момант падрыхтоўкі дакладу змены ў выбарчым заканадаўстве, якія сведчаць пра сістэмныя прасоўванні да дэмакратызацыі яшчэ не былі прынятыя.

2. Урад Беларусі і дзяржаўныя органы пасля 2003 г. практычна згарнулі супрацоўніцтва з праваабаронцамі па пытаннях прасоўвання правоў чалавека. Сітуацыя пачала змяняцца на пачатку 2009 г., калі былі створаныя Грамадска-кансультацыйная рада пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, чыёй мэтай названае абмеркаванне найважнейшых пытанняў грамадска-палітычнага жыцця і ў якую ўвайшоў прадстаўнік БХК, а таксама грамадска-каардынацыйная рада ў сферы масавай інфармацыі, у якую ўвайшоў прадстаўнік БАЖ. Названыя органы правялі некалькі паседжанняў, пакуль іх эфектыўнасць была невялікая.

3. Кіраўніцтва краіны практычна ігнаравала рэзалюцыі і рэкамендацыі міжурадавых структураў па правах чалавека ў Беларусі. Краіна доўгі час не прадастаўляла перыядычныя справаздачы аб выкананні абавязацельстваў па ключавых пактах і канвенцыях ААН, адмаўлялася ад супрацоўніцтва з тэматычнымі і краінавымі спецдакладчыкамі і не выконвала іх рэкамендацыяў. Урад адмаўляецца выконваць рашэнні Камітэта ААН па правах чалавека па індывідуальных скаргах. Беларусь з'яўляецца адзінай краінай, якая размешчаная на еўрапейскай тэрыторыі і не ўваходзіць у Раду Еўропы.

Беларусь не падпісала і не ратыфікавала факультатыўны пратакол да Міжнароднай канвенцыі супраць катаванняў, Другі факультатыўны пратакол да Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, Еўрапейскую канвенцыю аб абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў, Еўрапейскую сацыяльную хартыю, Рымскі статут Міжнароднага крымінальнага суда, Канвенцыі «Аб недабраахвотных знікненнях»,

«Аб правах усіх працоўных-мігрантаў і членаў іх сем'яў». Не ратыфікаваная Канвенцыя аб правах інвалідаў, але цяпер распачатая падрыхтоўка да далучэння да яе.

4. У Беларусі да моманту падрыхтоўкі матэрыялаў не створана спецыяльных дзяржаўных інстытутаў па абароне правоў чалавека, адсутнічае інстытут амбудсмэна. Такія функцыі, у ліку іншых, уваходзяць у кампетэнцыю некаторых дзяржаўных органаў. Аднак такія органы не адпавядаюць Парыжскім прынцыпам, іх дзейнасць па абароне правоў чалавека на практыцы не з'яўляецца эфектыўнай.

5. У перыяд падрыхтоўкі дадзеных матэрыялаў адбыліся сустрэчы іх распрацоўшчыкаў з супрацоўнікамі МЗС і першым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Н. Пяткевіч, у ходзе якіх службовыя асобы былі праінфармаваныя аб ключавых праблемах з правамі чалавека, на якіх будзе акцэнтаваная крытыка з мэтай спрыяння вырашэнню існуючых праблемаў.

## Права на жыццё [1]

Канстытуцыя гарантуе кожнаму права на жыццё, у ёй жа замацаваны часовы характар смяротнага пакарання, яго прымяненне як выключнай меры пакарання. На дадзены момант Рэспубліка Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе і краінах былога СССР, якая практыкуе выкарыстанне смяротнага пакарання. Афіцыйная інфармацыя пра колькасць прыведзеных у выкананне смяротных прысудаў адсутнічае, у СМІ з'яўляецца толькі інфармацыя пра колькасць вынесеных. З 1997 г. было вынесенае каля 140 такіх прысудаў.

Працэдуры выканання смяротных прысудаў у Беларусі Камітэтам ААН па правах чалавека расцэньваюцца як негуманнае і бесчалавечае абыходжанне: сваякам не паведамляецца пра дату прывядзення прысуду ў выкананне, не выдаюцца асабістыя рэчы пакараных, а таксама цела для далейшага пахавання, пра месца пахавання не паведамляецца. Асобы, асуджаныя да смяротнага пакарання прысудам Вярхоўнага суда пазбаўленыя магчымасці абскарджання прысудаў у касацыйным парадку, бо прысуды Вярхоўнага суда ўступаюць у сілу неадкладна пасля іх вынясення. Варта адзначыць, што абазначыліся станоўчыя тэндэнцыі, накіраваныя на ўвядзенне мараторыя на прымяненне смяротнага пакарання. Прадстаўнікі вышэйшых дзяржаўных органаў неаднаразова заяўлялі пра гатоўнасць увядзення мараторыя. Канстытуцыйны суд лічыць магчымым поўную адмену смяротнага пакарання.

Беларускія ўлады не робяць дастатковых намаганняў для расследвання гучных справаў, якія датычаць выпадкаў гвалтоўных, палітычна матываваных знікненняў В. Ганчара, Дз. Завадскага, Ю. Захаранкі і А. Красоўскага альбо пра гэтыя намаганні нічога невядома. У датычнасці да знікненняў і магчымых пазасудовых пакаранняў родныя зніклых і міжнародная грамадскасць падазрае высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў.

Асаблівую занепакоенасць прымяненне ў Беларусі смяротнага пакарання выклікае ў сувязі з незабеспячэннем незалежнасці судовай сістэмы і адвакатуры, наяўнасцю выпадкаў выкарыстання катаванняў пры правядзенні папярэдняга следства і іншых недапушчальных метадаў следства, відавочным дысбалансам паўнамоцтваў пракуратуры і правоў абароны. На дадзены аспект неаднаразова звярталі ўвагу, як беларускія праваабаронцы, так і міжнародныя арганізацыі.

## Забарона катаванняў і жорсткага абыходжання [2]

Канстытуцыя ўтрымлівае забарону на прымяненне катаванняў, жорсткага, нечалавечага або зневажаючага годнасць абыходжання ці пакарання, а таксама недобраахвотныя медыцынскія і іншыя эксперыменты. Недапушчальнасць катаванняў і адказнасць за іх прымяненне прадугледжваюць іншыя законы і нарматыўныя акты, у тым ліку працэсуальныя. Заканадаўства прадугледжвае адказнасць за прымяненне катаванняў і іншых відаў жорсткага абыходжання з боку службовых асобаў. Аднак тэрмін «катаванне» не раскрываецца ў заканадаўстве. Адсутнічае практыка прыцягнення да адказнасці за прымяненне катаванняў. Існуюць адзінкавыя выпадкі пакаранняў за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі. Праваабаронцы атрымліваюць шматлікія скаргі аб прымяненні катаванняў у праваахоўных органах.

Пенітэнцыярная сістэма Беларусі зачыненая для грамадскага кантролю, што не дазваляе ў дастатковай ступені даследаваць умовы ўтрымання зняволеных. Прымяненні службовымі асобамі катаванняў і жорсткага абыходжання з затрыманымі і арыштаванымі носіць латэнтны характар, інфармацыя пра гэта рэдка становіцца прадметам галоснасці. Органамі Міністэрства юстыцыі створаныя грамадскія камісіі па кантролю за пенітэнцыярнымі ўстановамі, але іх праца неэфектыўная. Праваабаронцы не былі ўключаныя ў гэтыя камісіі. Умовы ўтрымання ў турмах, абыходжанне з асуджанымі і асобамі, якія знаходзяцца пад вартай, шмат у чым можна расцэньваць як жорсткае абыходжанне або катаванні.

Факты прымянення катаванняў і іншых бесчалавечных відаў абыходжання супрацоўнікамі сілавых структураў фіксуюцца ў дачыненні да затрыманых удзельнікаў апазыцыйных акцыяў пратэсту.

Занепакоенасць выклікае становішча асобаў, якія змяшчаюцца ў псіхіятрычныя бальніцы, лячэбна-працоўныя прафілакторыі і ўстановы, дзе праводзіцца прымусовае лячэнне хворых на сухоты. У дачыненні да апошніх адзначаныя выпадкі галадовак хворых у знак пратэсту супраць нездавальняючых умоваў абслугоўвання.

## Забарона прымусовай працы [3]

Беларусь ратыфікавала Канвенцыю аб прымусовай працы і Канвенцыю аб скасаванні прымусовай працы. Прадпісанні міжнародных нормаў замацаваныя ў Канстытуцыі і Працоўным кодэксе. Аналіз заканадаўства і практыкі, якая склалася, паказвае, што ў Беларусі прымусовая праца выкарыстоўваецца. Элементы прымусовай працы прасочваюцца ў наступных сферах.

Аналіз заканадаўства і практыкі, якая склалася паказвае, што ў Беларусі выкарыстоўваецца прымусовая праца. Закон «Аб статусе ваеннаслужачага» дапускае «прыцягненне вайскоўцаў у перыяд праходжання вайсковай службы да працаў і выканання іншых абавязкаў, не абумоўленых вайсковай службай». Міністэрства абароны прыцягвае вайскоўцаў у перыяд праходжання вайсковай службы да працаў і выканання іншых абавязкаў, не абумоўленых вайсковай службай. Ваеннаслужачыя выконваюць яе не на добраахвотнай аснове, а пад страхам пакарання за невыкананне загаду. Аплата іх працы не прадугледжаная.

У 2002 г. у Закон «Аб адукацыі» уведзенае абавязковае размеркаванне выпускнікоў навучальных установаў (маладых спецыялістаў), якія атрымалі адукацыю за кошт бюджэтных сродкаў. Гэтыя асобы абавязаныя адпрацаваць па размеркаванні адзін год — пасля атрымання прафесійна-тэхнічнай адукацыі, два гады — пасля атрымання

сярэдняй спецыяльнай або вышэйшай адукацыі ў месцах, вызначаных камісіямі па размеркаванні выпускнікоў. Размеркаванне маладых спецыялістаў у Беларусі выкарыстоўваецца як метад мабілізацыі і выкарыстання працоўнай сілы для патрэбаў эканамічнага развіцця краіны і асобных рэгіёнаў без захавання прынцыпу добраахвотнасці найму. Наймальнікам забаронена звальняць маладых спецыялістаў да заканчэння абавязковага тэрміну працы, за выключэннем звальнення за вінаватыя дзеянні маладога спецыяліста. У якасці пакарання для маладога спецыяліста выступае патрабаванне аб кампенсацыі сродкаў, затрачаных на яго навучанне.

У 2006 годзе прыняты Дэкрэт Прэзідэнта № 18 «Аб дадатковых мерах па дзяржаўнай абароне дзяцей у праблемных сем'ях». Згодна з Дэкрэтам дзеці з праблемных сем'яў адбіраюцца у бацькоў у пазасудовым парадку, на бацькоў ускладаецца абавязак кампенсаваць расходы на ўтрыманне дзяцей у дзяржаўных дзіцячых установах. Пры нявыплаце дадзеных выдаткаў Дэкрэт прадугледжвае прымусовае працаўладкаванне (па пастанове суда), а ў выпадку ўхілення ад працы — крымінальную адказнасць.

Законам «Аб мерах прымусовага ўздзеяння адносна хранічных алкаголікаў і наркаманаў, якія сістэматычна парушаюць грамадскі парадак або правы іншых асобаў» устаноўлена, што «хранічныя алкаголікі і наркаманы могуць быць па рашэнні суда прымусова ізаляваныя на тэрмін ад 1 да 1,5 гадоў у лячэбна-працоўных прафілакторыях для іх медыка-сацыяльнай рэадаптацыі з абавязковым прыцягненнем да працы. На гэтых асобаў не распаўсюджваецца працоўнае заканадаўства.

Беларусь актыўна прымае меры па барацьбе з гандлем людзьмі.

## Права на свабоду і асабістую недатыкальнасць. Незаконныя затрыманні і арышты [4]

Уведзены ў дзеянне ў 2000 г. Крымінальна-працэсуальны кодэкс (КПК) захаваў традыцыйныя недахопы рэгулявання працэдураў затрымання і прымянення заключэння пад варту як меры стрымання. КПК загадвае тлумачыць падставы для затрымання асобы і яго права толькі пасля дастаўлення затрыманага ў орган крымінальнага пераследу і складання пратаколу, а не пры яго фактычным затрыманні (арт.110).

Асоба, падазраваная ў здзяйсненні асабліва цяжкіх і некаторых цяжкіх злачынстваў пры наяўнасці названых у КПК абставіна,ў можа быць затрыманая на тэрмін да 10 сутак на падставе толькі пастановы органа крымінальнага пераследу (арт.108).

Па заканчэнні пазначанага часу вырашаецца пытанне аб ужыванні меры стрымання, альбо асоба вызваляецца з-пад варты. У такіх выпадках законам не прадугледжваецца якіх-небудзь кампенсацыяў.

Санкцыя на прымяненне заключэння пад варту як меры стрымання выдаецца і падаўжаецца пракурорамі, пры гэтым гэтая ж пракуратура падтрымлівае абвінавачанне ў судзе, г. зн. з'яўляецца зацікаўленым бокам. Рашэнне пытання аб наданні санкцыяў можа праходзіць у адсутнасць падазраванага. Пры падазрэнні ў здзяйсненні цяжкага ці асабліва цяжкага злачынства зняволенне пад варту можа прымяняцца толькі па матывах цяжкасці злачынства, без уліку асобы падазраванага, без аналізу ці можа дадзеная асоба схавацца альбо працягваць злачынную дзейнасць (арт.126)

КПК замацаваў права на судовае абскарджанне зняволення пад варту. Аднак суд надзелены правам праверкі толькі фармальнай законнасці правільнасці прымянення дадзенай меры стрымання, не маючы права і магчымасці правяраць па сутнасці наяўнасць абставінаў, якія сведчаць пра неабходнасць яе прымянення. Дадзеныя працэдуры робяць

судовае абскарджанне прымянення зняволення па варту неэфектыўным, такія скаргі падаюцца на практыцы надзвычай рэдка і практычна заўсёды бязвыніковыя. Значныя парушэнні свабоды і асабістай недатыкальнасці рэгулярна адбываюцца пры разгонах сіламі правапарадку ўдзельнікаў мірных апазыцыйных акцыяў пратэсту. Удзельнікаў такіх мерапрыемстваў, мінакоў упіхваюць у аўтобусы і дастаўляюць у аддзяленні міліцыі. Нярэдка на шляху следавання затрыманыя падвяргаюцца збіццю, абразам, іншым зневажальным формам звароту. У аддзяленнях міліцыі затрыманых фатаграфуюць і робяць дактыласкапіі. Многія з затрыманых вызваляюцца без складання якіх-небудзь працэсуальных дакументаў, нярэдка прыцягваюць да адміністрацыйнай адказнасці.

Існуюць выпадкі, калі удзельнікаў акцыі без якога-небудзь афармлення абгрунтаванняў затрымання вывозяць за межы горада і выпускаюць ўдалечыні ад населеных пунктаў і маршрутаў руху транспарту.

У перыяд прэзідэнцкіх выбараў 2006 года шырока прымянялася практыка прэвентыўных арыштаў сотняў актывістаў апазіцыі напярэдадні правядзення масавых акцыяў. Іх, як правіла, прыцягвалі да адказнасці за дробнае хуліганства, прызначаючы ў якасці пакарання адміністрацыйныя арышты ад 5 да 15 сутак.

У 2008—2009 гг. звыш 2 мільёнаў чалавек пад рознымі пагрозамі былі прымушаныя да дактыласкапіі. Гэтая працэдура ўжытая на падставе незаконнага распараджэння міністра ўнутраных справаў з мэтай збору дадзеных па расследаванні справы аб выбухах у Мінску летам 2008 года. Скаргі грамадзянаў на дапушчаныя супрацоўнікамі міліцыі парушэнні не разглядаюцца належным чынам органамі пракуратуры і судамі.

## Права асобаў, пазбаўленых волі, на гуманнае абыходжанне і павагу годнасці [5]

У апошнія гады ў Беларусі заканадаўча пашыраны пералік пакаранняў, не звязаных з ізаляцыяй ад грамадства, прымаюцца меры да зніжэння колькасці зняволеных, у асноўным вырашаная праблема скрайняй перапоўненасці турмаў (гэтая праблема застаецца актуальнай для СІЗА), вядзецца праца па зніжэнні захворванняў у месцах пазбаўлення волі. Аднак краіна па-ранейшаму ў ліку «лідэраў» па «турэмнаму насельніцтву». Не прадпрынята комплексных мераў па гуманізацыі крымінальна-выканаўчай сістэмы (КВС), якая па-ранейшаму ў большай ступені накіраваная на пакаранне, але не на сацыяльную адаптацыю асобаў, пазбаўленых волі. Перад КВС па-ранейшаму ставіцца задача раскрывальнасці злачынстваў, што на практыцы прыводзіць да дамінавання інтарэсаў апаратыўнай працы над іншымі задачамі. Гэтаму спрыяе той факт, што КВС знаходзіцца ў сістэме МУС.

Празмерная закрытасць сістэмы папярэдняга заключэння і выканання пакаранняў не дазваляе ўсталяваць неабходны для яе эфектыўнага функцыянавання грамадскі кантроль. Органамі Міністэрства юстыцыі створаныя грамадскія камісіі, аднак іх склад і працэдура стварэння абумовілі іх неэфектыўнасць. Праваабаронцы сістэматычна атрымліваюць масу скаргаў на грубыя парушэнні правоў зняволеных, у тым ліку на перашкоды ў падачы скаргаў, якія ствараюцца адміністрацыяй. Ведамасны і пракурорскі нагляд таксама нельга назваць эфектыўнымі, прасочваецца накіраванасць на «абарону мундзіра» і функцыя абвінавачвання пракуратуры.

Дысцыплінарныя пакаранні нярэдка спалучаныя з недапушчальнымі абмежаваннямі, працэдуры іх выкарыстання ствараюць перадумовы для адвольнага і празмернага пакарання. Судовае абскарджанне дысцыплінарных пакаранняў немагчымае ў сувязі з адсутнасцю спецыяльнага рэгулявання.

Ва ўсіх установах КВС адзначаныя праблемы даступнасці і эфектыўнасці медыцынскай дапамогі, што ў першую чаргу абумоўлена недахопам фінансавання. Нягледзячы на меры, якія ўжываюцца, узровень захворванняў на сухоты мае пагражаючыя памеры і, па некаторых ацэнках, перавышае агульную статыстыку ў 25—30 разоў.

Следчыя ізалятары і ізалятары часовага ўтрымання, як правіла адрозніваюцца значна больш цяжкімі ўмовамі ўтрымання, чым установы пэнітэнцыярнай сістэмы. Існуюць шматлікія факты вельмі нездавальняючага харчавання, адсутнасці забеспячэння элементарнымі санітарна-гігіенічнымі ўмовамі, пасцельнымі прыладамі, утрымання ў неацяпляльных памяшканнях у халодную пару года, зневажальнага абходжання з боку персаналу. Змяшчэнне ў такія ўмовы нярэдка варта кваліфікаваць як катаванні або бесчалавечныя ўмовы звароту і пакарання.

## Права на справядлівы суд і іншыя працэсуальныя права [6]

Канстытуцыя гарантуе кожнаму абарону яго правоў і свабодаў кампетэнтным, незалежным і непрадузятым судом у вызначаныя законам тэрміны (арт. 60). Канстытуцыяй замацоўваецца, што суддзі незалежныя і падпарадкоўваюцца толькі закону. Якое-небудзь умяшанне ў дзейнасць суддзяў па выкананні правасуддзя недапушчальнае і цягне адказнасць па закону.

На практыцы прынцып незалежнасці суддзяў сур'ёзна парушаецца. У 2000 годзе азначаная праблема вывучалася спецдакладчыкам ААН па пытанні аб незалежнасці суддзяў і адвакатаў. У дакладзе пазначаліся сур'ёзныя парушэнні прынцыпаў незалежнасці суддзяў у Беларусі. Аднак ні адна з рэкамендацыяў, якія змяшчаюцца ў дакладзе, Урадам Беларусі не выканана.

Рэальны ўдзел судзейскага самакіравання ў падборы кадраў на пасады суддзяў, іх далейшае прасоўванне па службе, а таксама ў пытаннях звальнення зведзена да мінімуму. Падбор суддзяў ажыццяўляецца Міністэрствам юстыцыі і яго структурамі на месцах. Адабраныя кандыдатуры ўхваляюцца кваліфікацыйнымі калегіямі суддзяў, узгадняюцца кіраўнікамі мясцовых адміністрацыяў, затым — Саветам бяспекі і кадравым кіраўніцтвам Адміністрацыі Прэзідэнта, дзе прымаецца канчатковае рашэнне і падпісваецца загад Прэзідэнта аб прызначэнні. Упершыню прызначаныя суддзі прызначаюцца на 5 гадоў, затым — пажыццёва. Нярэдка па выніках працы суддзя зноў прызначаецца на пяць гадоў, пры гэтым дакладных крытэрыяў, калі суддзя прызначаецца пажыццёва альбо на новы пяцігадовы тэрмін, у заканадаўстве няма. Пры такім становішчы справаў суддзі вельмі ўразлівыя і магчымасць ціску на іх павялічваецца.

З 2000 г. і ў наступныя гады ўведзеныя Крымінальна-працэсуальны, Грамадзянскі працэсуальны, Гаспадарча-працэсуальны кодэксы, а таксама Працэсуальна-выканаўчы кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях. Новае заканадаўства пашырыла магчымасці спаборнасці працэсу, функцыі абароны, удзелу бакоў у прадстаўленні доказаў. Больш выразна сфармуляваныя правы і абавязкі ўдзельнікаў судовага працэсу, аднак на практыцы названыя змены не выключылі абвінаваўчы ўхіл крымінальнага працэсу. Узровень апраўдальных прысудаў практычна не змяніўся і складае ня больш за 0,3%. Працягваецца практыка незаконнага выкарыстання крымінальнай юстыцыі ў дачыненні да палітычных апанентаў і грамадскіх актывістаў.

Існуюць сур'ёзныя праблемы ў забеспячэнні публічнасці крымінальнага працэсу. Суддзі адвольна ўжываюць падставы для разгляду справаў у закрытым судовым паседжанні, у асаблівасці, калі разглядаюцца гучныя карупцыйныя справы ў вышэйшых эшалонах улады, а таксама палітычна матываваныя справы. У шэрагу выпадкаў ства-

раюцца перашкоды для прадстаўнікоў СМІ і праваабаронцаў. Для адвакатаў уведзеная забарона выдаваць любыя дадзеныя папярэдняга расследвання. Пры гэтым законам не вызначаныя крытэрыі аднясення звестак па крымінальнай справе да дадзеных, якія падлягаюць абароне ад разгалашэння. На практыцы гэта прыводзіць да таго, што адвакаты, знаходзячыся пад пагрозай крымінальнай адказнасці, адмаўляюцца паведамляць любыя звесткі па справах, у тым ліку звязаныя з парушэннем працэсуальных правоў іх кліентаў.

У Крымінальна-працэсуальны кодэкс у 2006 годзе былі ўнесены змены, паводле якіх быў уведзены асаблівы парадак вытворчасці па крымінальных справах у дачыненні да асобных катэгорыяў асобаў, пасада якіх уключана ў кадравы рэестр Прэзідэнта. Рашэнне аб узбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні названых асобаў, а таксама аб выкарыстанні да іх мераў стрымання прымаюцца генеральным пракурорам са згоды Прэзідэнта. Любая асоба можа быць да суда вызваленая Прэзідэнтам ад крымінальнай адказнасці ў сувязі з дабраахвотным вяртаннем прычыненай шкоды. Працэдура вызвалення ад крымінальнай адказнасці непразрыстая, акты Прэзідэнта пра гэтае не публікуюцца.

Нягледзячы на Заключэнне Канстытуцыйнага суда ад 23.06.1999 г. прысуды і рашэнні Вярхоўнага суда па справах, разгледжаных ім па першай інстанцыі не падлягаюць касацыйнаму абскарджанню.

Грамадзяне не маюць права падаваць канстытуцыйнай скаргі. Для праверкі канстытуцыйнасці нарматыўных прававых актаў у Канстытуцыйны суд могуць звярнуцца Прэзідэнт, урад, палаты парламента, Вярхоўны суд і Вышэйшы гаспадарчы суд, аднак гэты механізм неэфектыўны, паколькі названыя органы ў апошнія дзесяць гадоў такую праверку не ініцыявалі.

## Права на свабоду думкі, сумлення і рэлігіі [7]

Канстытуцыя ўсталёўвае, што рэлігіі і веравызнанні роўныя перад законам (ч. 1 арт. 16). Аднак ч. 2 таго самага артыкула кажа пра тое, што «ўзаемаадносіны дзяржавы і рэлігійных арганізацыяў рэгулююцца законам з улікам іх уплыву на фарміраванні духоўных культурных і дзяржаўных традыцыяў беларускага народа». Крытэры такога ўплыву не вызначаныя. Гэта спараджае дыферэнцыяванае стаўленне да рэлігіяў з боку беларускіх уладаў. Такое стаўленне прысутнічае і ў прынятай у 2002 годзе новай рэдакцыі Закона «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях». У ім пералічаныя пяць канфесіяў, якія лічацца звязанымі з гісторыяй Беларусі: праваслаўе, каталіцтва, лютэранства, іслам і юдаізм. Непералічаныя фактычна ўспрымаюцца ўладамі як чужыя беларускаму народу (перш за ўсё гэта неапратэстанцкія напрамкі). Новая рэдакцыя Закона выклікала сур'ёзную крытыку.

Заканадаўча забароненая дзейнасць незарэгістраваных рэлігійных арганізацыяў пад страхам адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці. Пачынаючы з 2001 года і да сённяшняга часу вернікі розных веравызнанняў прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці за «стварэнне рэлігійнай арганізацыі і яе кіраўніцтва без рэгістрацыі яе статута ва ўсталяваным парадку». Аднак закон утрымлівае празмерныя патрабаванні для рэгістрацыі рэлігійных арганізацыяў.

Згодна з Законам «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях», рэлігійныя арганізацыі падзяляюцца на абшчыны і аб'яднанні. Рэлігійныя аб'яднанні ўтвараюцца пры наяўнасці не менш за дзесяць рэлігійных абшчынаў адзінага веравызнання, з якіх хаця б адна ажыццяўляе сваю дзейнасць на тэрыторыі Беларусі не менш дваццаці

гадоў. Толькі рэлігійныя аб'яднанні маюць права засноўваць уласныя сродкі масавай інфармацыі, ствараць духоўныя навучальныя ўстановы і рыхтаваць кадры святароў, запрашаць замежных святароў. Гэта абмяжоўвае магчымасці для веравызнання прадстаўнікоў тых рэлігійных накірункаў, якія дзейнічаюць на Беларусі нядаўна.

Рэлігійныя абшчыны маюць права дзейнічаць толькі на тэрыторыі таго населенага пункта, дзе яны зарэгістраваныя. Сябры рэлігійных арганізацыяў не маюць права распаўсюджваць свае рэлігійныя перакананні і ажыццяўляць якую-небудзь рэлігійную дзейнасць (прапаведаваць, распаўсюджваць літаратуру, праводзіць набажэнствы і інш.) за межамі тэрыторыі населенага пункта, у якім зарэгістраваная дадзеная суполка. Фактычна рэлігійным арганізацыям забаронена місіянерская дзейнасць, што для многіх з іх з'яўляецца непрымальным у сілу іх рэлігійных поглядаў, і на гэтай глебе ўзнікаюць канфлікты з уладамі.

Ускладненая дзейнасць замежных рэлігійных дзеячаў. У 2008—2009 гг. на Беларусі па-ранейшаму, мелі месца выпадкі неабгрунтаванай адмовы ў падаўжэнні візаў замежным грамадзянам і дэпартацыі замежных грамадзянаў у сувязі з іх рэлігійнай дзейнасцю.

Дзейнасць рэлігійных арганізацыяў у памяшканнях някультавага характару можа ажыццяўляцца толькі з дазволу ўладаў. Атрымаць такі дазвол для шэрагу суполак вельмі складана, таму яны вымушаныя парушаць дадзенае палажэнне закона і прыцягваюцца за гэта да адказнасці.

З пачатку 1990-х гг. у Беларусі афіцыйна зарэгістраваныя 26 рэлігійных канфесіяў. З моманту прыняцця закона не зарэгістравана ні адной новай канфесіі нягледзячы на шматлікія спробы.

Да гэтага часу не прыняты закон аб альтэрнатыўнай службе. Грамадзян прыцягваюць да крымінальнай адказнасці за ўхіленне ад мерапрыемстваў па прызыву на вайсковую службу, нягледзячы на тое, што сваю адмову яны матывуюць прычынамі веры або пацыфісцкімі поглядамі.

## Свабода слова [8]

Канстытуцыя абвяшчае свабоду слова і права на інфармацыю (арт. 33, 34). Аднак нормы беларускага заканадаўства і практыка яго выкарыстання часам супярэчаць гэтым канстытуцыйным гарантыям. У Крымінальным кодэксе маецца шэсць артыкулаў, якія ўстанаўліваюць адказнасць за паклёп і абразу ў адносінах да Прэзідэнта, прадстаўнікоў улады, суддзяў, а таксама за «дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь». Названыя артыкулы неаднаразова ўжываліся на практыцы.

У лютым 2009 года ўступіў у сілу новы закон «Аб сродках масавай інфармацыі». У прыватнасці, закон прадугледжвае рэгуляванне дзейнасці інтэрнэт-СМІ пастановай урада, перарэгістрацыю ўсіх СМІ, спрашчае працэдуру закрыцця СМІ, зніжае ступень абароненасці журналістаў і рэдакцыяў. Некаторыя яго рэпрэсіўныя палажэнні (аб рэгуляванні дзейнасці Інтэрнэт-СМІ) пад ціскам міжнароднай і беларускай грамадскасці да гэтага часу не прынятыя або прымяняюцца ў спрошчаным парадку (аб перарэгістрацыі СМІ), аднак у цэлым прававая база дзейнасці СМІ пагоршылася.

Міністэрства інфармацыі — рэспубліканскі орган рэгулявання ў сферы СМІ — з моманту ўступлення ў сілу новага закона не злоўжываў сваімі шырокімі паўнамоцтвамі па прымяненні санкцыяў. Аднак гэтыя паўнамоцтвы, і без таго празмерныя, толькі пашырыліся.

Судовае спыненне дзейнасці СМІ магчыма нават у выпадку аднаразовага грубага парушэння заканадаўства або пасля двух папярэджанняў за любыя, нават самыя нязначныя, парушэнні. Беларускія ўлады перашкаджаюць дзейнасці ў краіне карэспандэнтаў замежных СМІ. Пракуратура шырока выкарыстоўвала свае паўнамоцтвы па вынясенні папярэджанняў у адрас такіх журналістаў, Пракурорскія супрацоўнікі і супрацоўнікі КДБ, якія спасылаюцца на Закон «Аб сродках масавай інфармацыі», які забараняе дзейнасць журналістаў замежных СМІ на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь без акрэдытацыі. Між тым, Міністэрства замежных справаў некалькі разоў адмаўляла ў акрэдытацыі замежным карэспандэнтам.

Улады перашкаджаюць распаўсюджванню недзяржаўных СМІ. Дзяржаўныя манапалісты ў сферы распаўсюджвання СМІ па падпісцы і ў розніцу — «Белпошта» і «Саюздрук» — адмаўляюцца распаўсюджваць практычна палову з зарэгістраваных незалежных грамадска- палітычных выданняў. Пазовы рэдакцыяў газетаў і іх чытачоў беларускія суды адмовіліся разглядаць. Вяртанне ў гэтыя сістэмы распаўсюду ў канцы 2008 г. газетаў «Народная воля» і «Наша Ніва», а таксама «Бабруйскага кур'ера» ў 2009 г. — пазітыўныя моманты, якія аднак праблемы ў цэлым не вырашылі. Працягваецца практыка затрымання міліцыяй распаўсюджвальнікаў зарэгістраваных і незарэгістраваных выданняў і канфіскацыі накладаў газетаў і ўлётак. Асабліва часта супрацоўнікі міліцыі і КДБ канфіскоўваюць друкаваную прадукцыю ў перыяд электаральных кампаніяў.

Пагоршылася становішча з доступам да інфармацыі ўнутры краіны. Прынятыя ў апошні час прававыя акты (напрыклад, змены ў Закон «Аб дзяржаўнай службе») накіраваныя на тое, каб абмежаваць распаўсюд інфармацыі, якая не прайшла цэнзуру. У многіх рэгіёнах дзяржаўныя служачыя адмаўляюцца даваць СМІ любую інфармацыю бяз згоды мясцовых ідэалагічных супрацоўнікаў. Адным з метадаў абмежавання доступу да інфармацыі з'яўляецца адмова ў акрэдытацыі.

Супрацоўнікі праваахоўных органаў часта перашкаджаюць, у тым ліку з ужываннем гвалту, прафесійнай дзейнасці журналістаў падчас масавых акцыяў. Доўгі час не расследваныя справы аб злачынствах супраць журналістаў, у тым ліку забойствах і знікненнях.

Самы негатыўны ўплыў на сітуацыю з свабодай выказвання ў Беларусі аказвае закон «Аб процідзеянні экстрэмізму», прыняты ў 2007 г. Вызначэнне тэрмінаў «экстрэмізм», «экстрэмісцкая дзейнасць» дадзенае ў законе досыць размыта і дазваляе злоўжываць ім на практыцы. КДБ ініцыявала ўзбуджэння судовых працэсаў супраць друкаваных выданняў з прымяненнем закона «Аб процідзеянні экстрэмізму». Пад ціскам грамадскасці гэтыя працэсы былі спыненыя.

## Свабода сходаў [9]

Канстытуцыя гарантуе свабоду сходаў, якія не парушаюць грамадскі парадак і правы іншых грамадзянаў. Парадак іх арганізацыі і правядзення рэгулюецца перш за ўсё Законам «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» (новая рэдакцыя 2003 г.), а таксама рашэннямі мясцовых выканаўчых органаў улады. Некаторыя з дзеючых прававых нормаў сур'ёзна абмяжоўваюць свабоду мірных сходаў у Беларусі.

У Беларусі існуе дазвольны характар арганізацыі і правядзення сходаў. Складанасць і працягласць працэдуры атрымання дазволу, магчымасць адвольнай адмовы сур'ёзна абмяжоўвае свабоду мірных сходаў.

Адно з такіх абмежаванняў датычыць месцаў правядзення масавых мерапрыемстваў. На практыцы мясцовымі органамі ўлады для правядзення масавых мерапрыемстваў

вызначаюцца аддаленыя паркі, скверы, стадыёны і іншыя маланаведвальныя месцы, што часта робіць іх правядзенне бязсэнсоўным.

Законам прадугледжанае патрабаванне аб аплаце арганізатарамі сходу выдаткаў, звязаных з іх правядзеннем (ахова грамадскага парадку, медыцынскае абслугоўванне, прыборка тэрыторыі). Заяўнікі нясуць матэрыяльную адказнасць у выпадку нанясення шкоды дзяржаве, грамадзянам і арганізацыям удзельнікамі масавага мерапрыемства. Дадзеныя палажэнні вельмі часта з'яўляюцца падставай да забароны правядзення масавых мерапрыемстваў альбо непрапарцыйных грамадзянскіх пазоваў за нібыта прычыненую шкоду прадпрыемствам, якія адказваюць за прыборку вуліцаў.

Практычна кожны з мірных сходаў, які праходзяць без дазволу ўладаў, спыняўся праваахоўнымі органамі, заканчваўся масавымі арыштамі іх удзельнікаў і ўжываннем міліцыяй фізічнай сілы і спецыяльных сродкаў. У шэрагу выпадкаў іх ўдзельнікі і арганізатары прыцягваліся да крымінальнай адказнасці за арганізацыю альбо актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак.

## Свабода асацыяцыяў [10]

Канстытуцыя гарантуе права кожнага на свабоду аб'яднанняў. Выключэнне складае немагчымасць суддзяў, пракурорскіх супрацоўнікаў, супрацоўнікаў органаў унутраных справаў, Камітэта дзяржаўнага кантролю, органаў бяспекі, ваеннаслужачых быць сябрамі палітычных партыяў і іншых аб'яднанняў, якія дамагаюцца палітычных мэтаў.

Заканадаўства ўстанаўлівае складаны парадак рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў, у тым ліку палітычных партыяў і прафсаюзаў. Калі рэгістрацыя камерцыйных арганізацыяў патрабуе мінімальных намаганняў і ажыццяўляецца ў заяўным парадку на працягу некалькіх дзён, то рэгістрацыя грамадскіх аб'яднанняў патрабуе падрыхтоўкі шматлікіх дакументаў і займае звыш аднаго месяца. Сфармуляваныя ў заканадаўстве падставы для адмовы ў рэгістрацыі пакідаюць магчымасць адвольнай адмовы, а некаторыя аб'яднанні на працягу многіх гадоў сутыкаюцца з пастаяннымі адмовамі ў рэгістрацыі. Адмова ў рэгістрацыі можа быць абскарджаная ў суд, але суды не задавальнялі ні адной з такіх скаргаў.

З 2000 года ў Беларусі не было зарэгістравана ніводнай новай палітычнай партыі, многім партыям было адмоўлена ў рэгістрацыі. Колькасць грамадскіх аб'яднанняў застаецца на працягу 2002—2009 гг. пастаяннай — каля 2250 арганізацыяў. З адмовамі сутыкаюцца шматлікія моладзевыя і праваабарончыя групы, якія спрабуюць зарэгістравацца.

Сур'ёзнай перашкодай для стварэння новых аб'яднанняў з'яўляецца неабходнасць мець офіснае памяшканне ў нежылым будынку як для рэспубліканскага, так і для мясцовага аб'яднання. Грамадскае аб'яднанне або аддзяленне не можа быць зарэгістраванае з адрасам на прыватнай кватэры аднаго з заснавальнікаў.

Дзейнасць незарэгістраваных грамадскіх аб'яднанняў, партыяў, рэлігійных аб'яднанняў забароненая з 1999 года, а з 2005 года за яе ўсталяваная крымінальная адказнасць. Артыкул 193-1 Крымінальнага кодэкса прадугледжвае пазбаўленне волі на тэрмін да двух гадоў за ўдзел у дзейнасці незарэгістраванага грамадскага або рэлігійнага аб'яднання, партыі або фонду (незалежна ад мэты або зместу гэтай дзейнасці). За перыяд 2006—2009 гг. па гэтым артыкуле былі асуджаныя, у тым ліку пазбаўлены волі, не менш за 17 чалавек.

З сур'ёзнымі праблемамі сутыкаюцца незалежныя прафсаюзы: забарона на дзейнасць незарэгістраваных, перашкоды для абавязковай рэгістрацыі (складаная працэдура, абавязковая наяўнасць юрыдычнага адрасу без магчымасці зарэгістравацца па адра-

се кіраўніка прафсаюза, высокая арэндная плата, абмежаванні для стварэння і дзейнасці, прафесійнага саюза на прадпрыемстве, ва ўстанове, арганізацыі і ў іншых месцах працы (вучобы). Акрамя таго, члены незалежных прафсаюзаў падвяргаюцца ціску працадаўцаў, да іх прымяняюцца дыскрымінацыйныя меры.

## Права прымаць удзел у вядзенні дзяржаўных справаў, галасаваць і быць абраным [11]

Канстытуцыя прадугледжвае, што грамадзяне маюць права ўдзельнічаць у вырашэнні дзяржаўных справаў як непасрэдна, так і праз свабодна абраных прадстаўнікоў. Выбары рэгулююцца Канстытуцыяй, Выбарчым кодэксам, рашэннямі мясцовых органаў улады. Непасрэдны ўдзел грамадзянаў у кіраванні справамі грамадства і дзяржавы забяспечваецца правядзеннем рэферэндумаў, абмеркаваннем праектаў законаў і пытанняў рэспубліканскага і мясцовага значэння, іншымі вызначанымі законам спосабамі. Грамадзяне прымаюць удзел у абмеркаванні пытанняў дзяржаўнага і грамадскага жыцця на рэспубліканскіх і мясцовых сходах.

Пачынаючы з 1996 г. у Беларусі ўсе праведзеныя выбары і рэферэндумы прызнаваліся місіямі па назіранні за выбарамі БДІПЧ АБСЭ, як неадпаведныя міжнародным стандартам у галіне дэмакратычнасці, свабоды і транспарэнтнасці выбарчага працэсу. З моманту прыняцця Выбарчага кодэкса ў 2000 г. ён неаднаразова крытыкаваўся як міжнароднымі інстытутамі, так і нацыянальнымі назіральнікамі, праваабаронцамі і палітычнымі партыямі.

## Роўнасць перад законам, забарона дыскрымінацыі [12]

Канстытуцыя і іншыя нарматыўна-прававыя акты ўтрымліваюць забарону дыскрымінацыі, аднак адсутнічае яе вызначэнне. Толькі ў Працоўным кодэксе пералічваюцца магчымыя для дыскрымінацыі асновы. Практыка разгляду ў судах справаў па дыскрымінацыі не сфарміравана, паколькі суды не разглядаюць дыскрымінацыю як прадмет пазову, адмаўляюцца даследаваць правапрымяняльную практыку па аналагічных выпадках, без чаго немагчыма даказванне дыскрымінацыі па канкрэтнай справе. Суды пры разглядзе пазоваў аб спагнанні маральнай шкоды, атрыманай пры дыскрымінацыі, у сваіх рашэннях, якія спасылаюцца на тое, што Грамадзянскі кодэкс утрымлівае строгі і вычарпальны пералік пунктаў, па якіх можна патрабаваць прыцягнення да адказнасці за прычыненне маральнай шкоды, і дыскрымінацыя туды не ўваходзіць.

Існуе дыскрымінацыя па прыкмеце фізічнага і псіхічнага здароўя. Палітыка дзяржавы ў адносінах да інвалідаў накіраваная не на іх інтэграцыю ў грамадства, а на вылучэнне іх у асаблівую групу. Улады не прыкладаюць дастатковых намаганняў па стварэнні безбар'ернага асяроддзя ў населеных пунктах, што асабліва датычыць інвалідаў-калясачнікаў. Як станоўчы момант, неабходна адзначыць наяўнасць дзяржаўнай праграмы па стварэнні безбар'ернага асяроддзя, аднак яе выкананне недастатковае.

Асаблівае грамадскае гучанне ў Беларусі набыла дыскрымінацыя грамадзянаў па палітычных перакананнях. У дачыненні да асобаў, якія дэманструюць апазыцыйныя погляды прымяняюцца рэпрэсіі: выбарчае прымяненне кантрактнай сістэмы найму (звальненні з працы), адлічэнні з навучальных установаў, адвольныя затрыманні напярэдадні масавых мерапрыемстваў і буйных палітычных кампаніяў, перашкоды пры балатаванні падчас выбараў, абмежаванні свабоды асацыяцыяў і мірных сходаў, прызыў на вайсковую службу з парушэннем неабходных працэдураў.

Варта адзначыць праявы дыскрымінацыі па мове. Дзяржаўнымі мовамі з’яўляюцца беларуская і руская мовы, канстытуцыйна замацаваная іх роўнасць. Аднак на практыцы адзначаецца дыскрымінацыя беларускамоўных грамадзянаў. Адсутнічаюць выданні абсалютнай большасці нарматыўна-прававых актаў на беларускай мове, у тым ліку кодэксаў. Вайсковыя статуты не адпавядаюць Канстытуцыі і Закону “Аб мовах”: у статутах сказана, што каманды аддаюцца на рускай мове. Дыскрымінацыя ў войску відавочная: беларускай мовай камандны склад не валодае і публічна выказвае сваё негатыўнае да яе стаўленне, а за каманды на беларускай мове да ваеннаслужачых ўжываюць дысцыплінарныя спагнанні.

Існуе ў грамадстве праблема гамафобіі, якая замоўчваецца дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі, некаторыя з іх адзначыліся гамафобскімі і дыскрымінацыйнымі публікацыямі. Вулічныя акцыі гомасэксуалаў у Беларусі не дазваляюцца.

## Эканамічныя, сацыяльныя і культурныя правы

Пачынаючы з 2004 г., на падставе Дэкрэта № 29 Прэзідэнта працадаўцы прымусілі наёмных працоўных перайсці на кароткатэрміновыя кантракты. Такія кантракты тэрмінам як правіла на 1—3 гады падпісалі 90% працоўных. Кароткатэрміновыя кантракты рэзка пагоршылі становішча працоўных, бо наймальнік мае права звольніць працоўнага па заканчэнні тэрміну кантракта без тлумачэння прычынаў. У той жа час працоўны не мае права скасаваць кантракт датэрмінова па ўласным жаданні.

На ўзроўні прадпрыемстваў кароткатэрміновыя кантракты выкарыстоўваюцца наймальнікамі для запалохвання незалежных актывістаў прафсаюзаў, асобаў, якія дэманструюць апазіцыйныя палітычныя погляды. Прафсаюзы ў такой сітуацыі ня могуць дапамагчы працоўным па заканчэнні тэрміна іх кантракту. Кантрактная сістэма абмяжоўвае канстытуцыйнае права на працу, супярэчыць працоўнаму заканадаўству і міжнародным стандартам у галіне працы.

Існуюць праблемы атрымання адукацыі на беларускай мове. У Беларусі не забяспечаная пераемнасць у атрыманні адукацыі на беларускай мове паміж навучальнымі ўстановамі розных узроўняў. Практычна адсутнічае магчымасць атрымання вышэйшай адукацыі на беларускай мове па абсалютнай большасці спецыяльнасцяў. Адміністрацыя ВНУ не ідзе на сустрэчу жадаючым студэнтам у справе арганізацыі беларускамоўных групаў і патокаў.

## Рэкамендацыі беларускіх НДА па Універсальным перыядычным аглядзе па Беларусі ў Савеце ААН па правах чалавека

1. актывізаваць намаганні па захаванні і заахвочванні выканання правоў чалавека, у тым ліку шляхам стварэння інстытута амбудсмена і нацыянальных органаў па пытаннях правоў чалавека ў адпаведнасці з Парыжскімі прынцыпамі;
2. актывізаваць супрацоўніцтва са статутнымі і дагаворнымі органамі ААН па правах чалавека, своечасова прадстаўляць даклады каб выканаць свае абавязацельствы на аснове ажыццяўлення іх рэкамендацыяў, прымаць меры да выканання меркаванняў Камітэта ААН па правах чалавека па індывідуальных скаргах;
3. увесці мараторый на выкананне смяротнага пакарання, ратыфікаваць Другі факультатыўны пратакол да Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах

і прыняць меры да выключэння смяротнага пакарання з сістэмы пакаранняў;

4. ратыфікаваць Міжнародную канвенцыю для абароны ўсіх асобаў ад гвалтоўных знікненняў;
5. прызнаць кампетэнцыю Камітэта па ліквідацыі расавай дыскрымінацыі па арт. 14 Канвенцыі па ліквідацыі расавай дыскрымінацыі (індывідуальныя скаргі);
6. прыняць меры да пашырэння навучання правам чалавека на ўсіх узроўнях атрымання адукацыі;
7. даць азначэнне паняцця дыскрымінацыі ў заканадаўстве і забяспечыць дзейсны доступ да судовых сродкаў абароны ахвяраў дыскрымінацыі;
8. не дапускаць дыскрымінацыі ў дачыненні да якой-небудзь асобы або групы асобаў па якой бы то ні было прыкмеце, у тым ліку па прыкмеце палітычных ці іншых перакананняў;
9. забяспечыць навучанне дзяржаўных служачых, супрацоўнікаў органаў аховы правапарадку па праблемах дыскрымінацыі і яе недапушчэння;
10. выключыць любыя выпадкі дыскрымінацыі па палітычных і іншых матывах і забяспечыць расследаванне кожнага выпадку дыскрымінацыі;
11. прыняць неабходныя меры да завяршэння расследавання справаў па знікненнях палітычных дзеячаў: В. Ганчара, Д. Завадскага, Ю. Захаранкі, А. Красоўскага і прыцягненню вінаватых да адказнасці;
12. прывесці ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі працэдуры заключэння пад варту, перадаць паўнамоцтвы па санкцыянаванні заключэння пад варту і абрання меры стрымання судовым органам, выключыўшы магчымасць прымянення заключэння пад варту як меры стрымання па матывах адной толькі цяжкасці;
13. выключыць абмежаванне свабоды і ізаляцыю грамадзянаў у выпадках, не звязаных са здзяйсненнем правапарушэнняў, ліквідаваўшы сістэму лячэбна-працоўных прафілакторыяў;
14. спыніць практыку адвольных затрыманняў грамадзянаў па палітычных матывах, прыняць эфектыўныя меры па расследаванні наяўных выпадкаў незаконных затрыманняў;
15. працягнуць намаганні па барацьбе з катаваннямі і зрабіць заяву аб прызнанні кампетэнцыі Камітэта супраць катаванняў па артыкулах 21, 22 Канвенцыі супраць катаванняў;
16. імплементаваць у нацыянальнае заканадаўства паняцце катаванняў, дадзенае ў Канвенцыі супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных ці зневажаючых чалавечую годнасць відаў абыходжання і пакарання, забяспечыць эфектыўнае расследаванне выпадку катаванняў і нялюдскага абыходжання;
17. актывізаваць намаганні па рэфармаванні пенітэнцыярнай сістэмы для забеспячэння выканання мінімальных стандартных правілаў абыходжання са зняволенымі, у тым ліку адпаведнасці умоваў у месцах пазбаўлення волі і ўтрымання пад вартай міжнародным стандартам у галіне правоў чалавека;
18. прыняць дадатковыя меры для гуманізацыі выканання пакаранняў і перадаць крымінальна-выканаўчую сістэму ў падпарадкаванне Міністэрства юстыцыі;
19. забяспечыць навучанне супрацоўнікаў пенітэнцыярнай сістэмы і праваахоўных органаў па пытаннях правоў чалавека;

20. стварыць рэальныя магчымасці для грамадзянскага кантролю за ўмовамі ўтрымання ў месцах пазбаўлення волі і іншых месцах прымусовага ўтрымання грамадзянаў;

21. прыняць меры да ўмацавання незалежнасці суддзяў і адвакатаў, выканаць рэкамендацыі спецдакладчыка ААН па пытаннях незалежнасці суддзяў і адвакатаў;

22. павысіць ролю судовай улады ў Беларусі, не дапускаць ўмяшальніцтва выканаўчай улады ў ажыццяўленне правасуддзя; забяспечваць належную публічнасць судовага працэсу;

23. прыняць меры да пашырэння магчымасцяў судовай абароны грамадзянаў, надаўшы права канстытуцыйнай скаргі;

24. выключыць выпадкі прыцягнення да крымінальнай адказнасці асобаў, якія адмаўляюцца служыць у арміі па матывах сумлення і прыняць закон аб альтэрнатыўнай грамадзянскай службе;

25. забяспечваць належную рэалізацыю права спавядаць рэлігіі, у тым ліку і запрашаць замежных святароў;

26. забяспечыць, каб усе галіны дзяржаўнай улады, у тым ліку супрацоўнікаў дзяржаўных органаў, у поўнай меры паважалі і заахвочвалі свабоду выказвання меркаванняў;

27. прыняць эфектыўныя меры для забеспячэння свабоды ўсіх незалежных сродкаў масавай інфармацыі, як нацыянальных, так і замежных;

28. даць роўныя эканамічныя ўмовы для СМІ розных формаў уласнасці, вярнуць ўсе недзяржаўныя грамадска-палітычныя выданні ў сістэмы дзяржаўных манапалістаў-распаўсюджвальнікаў друкаваных выданняў, выключыць адміністрацыйны і эканамічны ціск на суб’ектаў гаспадарання, якія супрацоўнічаюць з рэдакцыямі незалежных СМІ, у тым ліку друкарні;

29. прыняць меры да пашырэння доступу да інфармацыі, прывесці ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі заканадаўства, якое рэгламентуе права журналістаў на доступ да інфармацыі пра дзейнасць органаў улады, спрасціць працэдуры адкрыцця афіцыйных прадстаўніцтваў замежных СМІ ў Беларусі, а таксама ўвесці заяўны прынцып акрэдытацыі;

30. прывесці ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі, выключыць крымінальную адказнасць за дыфамацыю вышэйшых службовых асобаў і дыскрэдытацыю дзяржавы, не дапускаць парушэнняў права на атрыманне і распаўсюд інфармацыі на падставе процідзеяння экстрэмізму;

31. эфектыўна расследаваць і пераследваць у судовым парадку злачынствы і парушэнні ў дачыненні да журналістаў і праваабаронцаў, прыцягваць вінаватых да адказнасці;

32. прывесці заканадаўства ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі ў галіне свабоды сходаў, спрасціўшы і скараціўшы працэдуру ўзгаднення, выключыць аплату арганізатарамі расходаў па забеспячэнні правапарадку і бяспекі грамадзян, выключыць неабгрунтаваныя абмежаванні па месцы, часе і парадку правядзення мерапрыемстваў;

33. належным чынам выконваць абавязак дзяржавы па абароне свабоды мірных сходаў шляхам удасканалення механізмаў і працэдураў, якія дазваляюць забяспечыць практычную рэалізацыю свабоды сходаў без празмернага бюракратычнага рэгулявання;

34. расследаваць кожны выпадак неабгрунтаванай забароны правядзення мірнага сходу і пераследу яго ўдзельнікаў;

35. адмяніць забарону на дзейнасць незарэгістраваных грамадскіх аб'яднанняў, фондаў, палітычных партыяў, прафсаюзаў і рэлігійных арганізацыяў, спрасціць працэдуры іх дзяржаўнай рэгістрацыі;

36. спыніць пераслед актывістаў палітычных партыяў і грамадзянскай супольнасці.

37. працягваць працу па выкананні рэкамендацыяў АБСЕ і Венецыянскай камісіі Рады Еўропы па ўдасканаленні выбарчага заканадаўства і практыкі яго прымянення з мэтай стварэння належных гарантыяў ўдзелу грамадзянаў у вядзенні дзяржаўных справаў;

38. прыняць меры па забеспячэнні рэальнай роўнасці дзвюх дзяржаўных моваў, у прыватнасці забяспечыўшы прыняцце заканадаўства на дзвюх дзяржаўных мовах;

39. ліквідаваць праблемы, звязаныя з атрыманнем адукацыі на беларускай мове, забяспечыўшы моўную пераемнасць у атрыманні адукацыі на розных узроўнях;

40. працягнуць намаганні па стварэнні безбар'ернага асяроддзя і іншых умоваў, неабходных для забеспячэння рэальнай роўнасці асобаў з абмежаванымі магчымасцямі;

41. працягнуць намаганні, накіраваныя на ўсталяванне гендэрнай роўнасці;

42. актывізаваць намаганні і распачаць пэўныя меры для заахвочвання цярпімасці і недыскрымінацыі асобаў з мінарытарнай сэксуальнай арыентацыяй або гендэрнай ідэнтычнасцю;

43. добрасумленна выконваць Канвенцыю МАП № 105 аб скасаванні прымусовай працы:

- змяніць заканадаўства аб ваеннаслужачых, выключыўшы з яго магчымасці выкарыстання працы ваеннаслужачых, не звязанай з выкананнем вайсковай службы;

- адмовіцца ад выкарыстання прымусовага размеркавання выпускнікоў установаў адукацыі ўсіх узроўняў у якасці метаду мабілізацыі і выкарыстання працоўнай сілы для патрэбаў эканамічнага развіцця краіны;

- выключыць з заканадаўства нормы, якія замацоўваюць прымусовае прыцягненне да працы бацькоў, абавязаных кампенсаваць расходы па ўтрыманні адабраных у іх дзяцей, а таксама крымінальную адказнасць за ўхіленне іх ад працы, звязаную з такім пакрыццём;

44. адмовіцца ад выкарыстання абавязковага прыцягнення да працы як меры медыкасацыяльнай рэадаптацыі асобаў, змешчаных у лячэбна-працоўныя прафілакторыі;

45. прыняць меры да абмежавання неабгрунтавана шырокага і адвольнага выкарыстання кантракту як формы працоўнага дагавора;

46. прымаць эфектыўныя меры для забеспячэння атрымання адукацыі на мовах нацыянальных меншасцяў;

47. актывізаваць і пашырыць супрацоўніцтва з групамі грамадзянскай супольнасці ў ажыццяўленні наступных мераў і выкананне вынікаў гэтага агляду.

**[1]** Даклад Спецыяльнага дакладчыка па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі Адрыяна Севярына. http://spring96.org/files/book/report_severin_2007_ru.pdf

Аб сітуацыі ў Беларусі. Рэзалюцыя Еўрапейскага Парламента P6_TA(2005)0363

Аб знікненнях людзей у Беларусі. Рэзалюцыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1371 (2004).

Спыненне пакарання сьмерцю ў Еўропе. Да адмены смяротнага пакарання ў Беларусі. Даклад

Міжнароднай Амністыі 2009 года. http://spring96.org/files/misc/dp_ru.pdf

Сітуацыя з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь у перыяд са студзеня 2007 года па жнівень 2008. Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта. http://www.belhelcom.org/?q=node/2073

Паведамленне Камітэта ААН па правах чалавека № 886/1999 Бандарэнка супраць Беларусі CCPR/C/77/D/886/1999

**[2]** Зварот Праваабарончага цэнтра «Вясна» і Міжнароднай Федэрацыі правоў чалавека да Спецыяльнага рэпарцёра ААН па катаваннях у Беларусі.

http://spring96.org/en/news/30137

Парушэнні правоў чалавека ў Беларусі ў 2006 годзе. Аналітычны агляд Праваабарончага цэнтра «Вясна». http://spring96.org/files/book/2006_review_en.pdf

Становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Генеральнай Асамблеі ААН *[па Дакладу Трэцяга камітэта (A/61/443/Add.3)]* 61/175 ад 8 сакавіка 2007.

Становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Генеральнай Асамблеі ААН *[па Дакладу Трэцяга камітэта (A/62/439/Add.3)]* 62/169 ад 20 сакавіка 2008.

Становішча правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Камісіі па правах чалавека ААН 2005/13.

Становішча правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Камісіі па правах чалавека ААН 2004/14.

Сітуацыя ў галіне правоў чалавека ў Беларусі ў 2008 годзе. Аналітычны агляд Праваабарончага цэнтра «Вясна». http://spring96.org/files/book/2008_analytics_en.pdf

Сітуацыя з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь у перыяд са студзеня 2007 года па жнівень 2008. Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта. http://www.belhelcom.org/?q=node/2073

Сучасная сітуацыя ў месцах пазбаўлення волі Рэспублікі Беларусь. Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта ў межах праекта «Прасоўванне культуры правоў чалавека ў пенітэнцыярнай сферы ў Рэспубліцы Беларусь». http://www.belhelcom.org/?q=node/2001

Суд і правы чалавека (Даклад падрыхтаваны па выніках маніторынгу судоў 1999 — 2001 гг). Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта. http://belhelcom.org/?q=ru/node/2407

**[3]** Парушэнні правоў чалавека ў Беларусі ў 2006 годзе. Аналітычны агляд Праваабарончага цэнтра «Вясна». http://spring96.org/files/book/2006_review_en.pdf

Сітуацыя ў галіне правоў чалавека ў Беларусі ў 2008 годзе. Аналітычны агляд Праваабарончага цэнтра «Вясна». http://spring96.org/files/book/2008_analytics_en.pdf

Сітуацыя з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь у перыяд са студзеня 2007 года па жнівень 2008. Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта. http://www.belhelcom.org/?q=node/2073

**[4]** Даклад Спецыяльнага Дакладчыка па пытаніні
аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі Адрыяна Севярына.
http://spring96.org/files/book/report_severin_2007_ru.pdf

Да пытання аб праве грамадзянаў на судовую абарону. Зварот Беларускага Хельсінскага камітэта ў Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь. http://www.belhelcom.org/?q=node/2145

Парушэнні правоў чалавека ў Беларусі ў 2006 годзе. Аналітычны агляд Праваабарончага цэнтра «Вясна». http://spring96.org/files/book/2006_review_en.pdf

Аб прымусовых знікненнях. Рэзалюцыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1463 (2005).

Аб сітуацыі ў Беларусі. Рэзалюцыя Еўрапейскага Парламента P6_TA(2005)0363.

Аб знікненнях людзей у Беларусі. Рэзалюцыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1371 (2004).

Становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Генеральнай Асамблеі ААН *[па Дакладу Трэцяга камітэта (A/61/443/Add.3)]* 61/175 ад 8 сакавіка 2007.

Становішча правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Камісіі па правах чалавека ААН 2003/14.

Злачынствы супраць крымінальнага правасуддзя ў Беларусі. Рэзалюцыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1606 (2008).

Злачынствы супраць крымінальнага правасуддзя ў Беларусі. Рэкамендацыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1832 (2008).

Прымусовыя знікненні. Рэкамендацыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1719 (2005).

Сітуацыя ў Беларусі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Рэзалюцыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1482 (2006).

Сітуацыя ў Беларусі. Рэзалюцыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1671 (2009).

Сітуацыя ў Беларусі. Рэзалюцыя Еўрапейскага Парламента P6_TA(2004)0011.

Сітуацыя ў Беларусі. Рэкамендацыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1874 (2009).

Сітуацыя з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь у перыяд са студзеня 2007 года па жнівень 2008. Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта. http://www.belhelcom.org/?q=node/2073

Экспертнае заключэнне Беларускага Хельсінскага камітэта па «справе 14-ці». http://www.belhelcom.org/?q=node/2075

**[5]** Сітуацыя з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь у перыяд са студзеня 2007 года па жнівень 2008. Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта. http://www.belhelcom.org/?q=node/2073

Суд і правы чалавека (Даклад падрыхтаваны па выніках маніторынгу судоў 1999 — 2001 гг.). Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта. http://belhelcom.org/?q=ru/node/2407

Умовы ўтрымання пад вартай у Рэспубліцы Беларусь. Сумесны Даклад Праваабарончага цэнтра «Вясна» і Міжнароднай Федэрацыі правоў чалавека за 2008 г. http://spring96.org/files/book/conditions_of_detention_2008_ru.pdf

Экспертнае заключэнне Беларускага Хельсінскага камітэта па «справе 14-ці». http://www.belhelcom.org/?q=node/2075

**[6]** Грамадзянскія і палітычныя правы, уключаючы пытанні незалежнасці суддзяў, выканання правасуддзя, беспакаранасці. Даклад Спецыяльнага Дакладчыка па пытанні аб незалежнасці суддзяў і адвакатаў г-на Парама Кумарасвамі.

Да пытання аб праве грамадзянаў на судовую абарону. Зварот Беларускага Хельсінскага камітэта ў Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь. http://www.belhelcom.org/?q=node/2145

Аб прымусовых знікненнях. Рэзалюцыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1463 (2005).

Аб сітуацыі ў Беларусі. Рэзалюцыя Еўрапейскага Парламента P6_TA(2005)0363.

Становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Генеральнай Асамблеі ААН *[па Дакладу Трэцяга камітэта (A/61/443/Add.3)]* 61/175 ад 8 сакавіка 2007.

Становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Генеральнай Асамблеі ААН [*па Дакладу Трэцяга камітэта (A/62/439/Add.3)*] 62/169 ад 20 сакавіка 2008.

Становішча правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Камісіі па правах чалавека ААН 2003/14.

Злачынствы супраць крымінальнага правасуддзя ў Беларусі. Рэзалюцыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1606 (2008).

Злачынствы супраць крымінальнага правасуддзя ў Беларусі. Рэкамендацыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1832 (2008).

Прымусовыя знікненні. Рэкамендацыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1719 (2005).

Сітуацыя ў Беларусі. Рэзалюцыя Еўрапейскага Парламента P6_TA(2004)0011.

Сітуацыя з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь у перыяд са студзеня 2007 года па жнівень 2008. Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта. http://www.belhelcom.org/?q=node/2073

Суд і правы чалавека (Даклад падрыхтаваны па выніках маніторынгу судоў 1999 — 2001 гг.). Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта. http://belhelcom.org/?q=ru/node/2407

**[7]** Сітуацыя з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь у перыяд са студзеня 2007 года па жнівень 2008. Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта. http://www.belhelcom.org/?q=node/2073

**[8]** Даклад Спецыяльнага Дакладчыка па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі Адрыяна Севярына. http://spring96.org/files/book/report_severin_2007_ru.pdf

Аб пераследзе прэсы ў Рэспубліцы Беларусь. Рэкамендацыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1658 (2004).

Палітычная сітуацыя і незалежнасць сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі. Рэзалюцыя Еўрапейскага Парламента P6_TA(2005)0295.

Становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Генеральнай Асамблеі ААН *[па Дакладу Трэцяга камітэта (A/61/443/Add.3)]* 61/175 ад 8 сакавіка 2007.

Становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Генеральнай Асамблеі ААН [*па Дакладу Трэцяга камітэта (A/62/439/Add.3)*] 62/169 ад 20 сакавіка 2008.

Становішча правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Камісіі па правах чалавека ААН 2003/14.

Становішча правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Камісіі па правах чалавека ААН 2005/13.

Сітуацыя ў Беларусі. Рэзалюцыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1671 (2009).

Сітуацыя ў Беларусі. Рэкамендацыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1874 (2009).

Сітуацыя з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь у перыяд са студзеня 2007 года па жнівень 2008. Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта. http://www.belhelcom.org/?q=node/2073

**[9]** Парушэнні правоў чалавека ў Беларусі ў 2006 годзе. Аналітычны агляд Праваабарончага цэнтра «Вясна». http://spring96.org/files/book/2006_review_en.pdf

Сітуацыя ў Беларусі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Рэзалюцыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1482 (2006).

Сітуацыя ў галіне правоў чалавека ў Беларусі ў 2008 годзе. Аналітычны агляд Праваабарончага цэнтра «Вясна». http://spring96.org/files/book/2008_analytics_en.pdf

Сітуацыя з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь у перыяд са студзеня 2007 года па жнівень 2008. Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта. http://www.belhelcom.org/?q=node/2073

Экспертнае заключэнне Беларускага Хельсінскага камітэта па «справе 14-ці». http://www.belhelcom.org/?q=node/2075

**[10]** Даклад Спецыяльнага Дакладчыка па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі Адрыяна Севярына. http://spring96.org/files/book/report_severin_2007_ru.pdf

Парушэнні правоў чалавека ў Беларусі ў 2007 годзе. Аналітычны агляд Праваабарончага цэнтра «Вясна». http://spring96.org/files/book/2007_review_en.pdf

Аб сітуацыі ў Беларусі. Рэзалюцыя Еўрапейскага Парламента P6_TA(2005)0363.

Агляд-хроніка парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі ў 2003 годзе. Аналітычны агляд Праваабарончага цэнтра «Вясна». http://spring96.org/files/book/2003_review_en.pdf

Палітычная сітуацыя ў Беларусі пасля парламенцкіх выбараў і рэферэндума 17 кастрычніка 2004 г. Рэзалюцыя Еўрапейскага Парламента P6_TA(2004)0045.

Становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Генеральнай Асамблеі ААН *[па Дакладу Трэцяга камітэта (A/61/443/Add.3)]* 61/175 ад 8 сакавіка 2007.

Становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Генеральнай Асамблеі ААН *[па Дакладу Трэцяга камітэта (A/62/439/Add.3)*] 62/169 ад 20 сакавіка 2008.

Становішча правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Камісіі па правах чалавека ААН 2003/14.

Становішча правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Камісіі па правах чалавека ААН 2005/13.

Сітуацыя ў Беларусі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Рэзалюцыя Парламенцкай Асамблеі Саветаы Еўропы 1482 (2006).

Сітуацыя ў Беларусі. Рэзалюцыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1671 (2009).

Сітуацыя ў Беларусі. Рэзалюцыя Еўрапейскага Парламента P6_TA(2004)0011.

Сітуацыя ў Беларусі. Рэкамендацыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1874 (2009).

Сітуацыя з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь у перыяд са студзеня 2007 года па жнівень 2008. Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта. http://www.belhelcom.org/?q=node/2073

**[11]** Аб сітуацыі ў Беларусі. Рэзалюцыя Еўрапейскага Парламента P6_TA(2005)0363.

Палітычная сітуацыя ў Беларусі пасля парламенцкіх выбараў і рэферэндума 17 кастрычніка 2004 г. Рэзалюцыя Еўрапейскага Парламента P6_TA(2004)0045.

Становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Генеральнай Асамблеі ААН *[па Дакладу Трэцяга камітэта (A/61/443/Add.3)]* 61/175 ад 8 сакавіка 2007.

Становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Генеральнай Асамблеі ААН *[па Дакладу Трэцяга камітэта (A/62/439/Add.3)*] 62/169 ад 20 сакавіка 2008.

Становішча правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Камісіі па правах чалавека ААН 2003/14.

Становішча правоў чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя Камісіі па правах чалавека ААН 2005/13.

Сітуацыя ў Беларусі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Рэзалюцыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1482 (2006).

Сітуацыя ў Беларусі. Рэзалюцыя Еўрапейскага Парламента P6_TA(2004)0011.

Сітуацыя ў Беларусі. Рэзалюцыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1671 (2009).

Сітуацыя ў Беларусі. Рэкамендацыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы 1874 (2009).

Сітуацыя з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь у перыяд са студзеня 2007 года па жнівень 2008. Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта. http://www.belhelcom.org/?q=node/2073

**[12]** Сітуацыя з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь у перыяд са студзеня 2007 года па жнівень 2008. Даклад Беларускага Хельсінскага камітэта.
http://www.belhelcom.org/?q=node/2073